РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

КОШТ 3 РУБЛІ

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №13. 5 КРАСАВІКА 1993 ГОДА.



## СЛАЎЛЕННЕ ПРАСВЯТОЕ БАГАРОДЗІЦЫ

*Багародзіца Дзева, радуйся!*

*Дабрадатная Марыя, Гаспод з Табою. Дабраслаўленая Ты між жанчын, і дабраслаўлены плод улоння Твайго, бо Ты радзіла Спаса душ нашых.*

*Пад Тваю міласць прыбягаем, Багародзіца Дзева, малітваў нашых не адкінь у цярпеннях, але ад бедаў спасі нас. Адзіна чыстая і Дабраслаўленая. Прасвятая Багародзіца, спасі нас!*

Багдан АНДРУСІШЫН (ДАНЧЫК) Фота Генадзя ЖЫНКОВА.

## НА ВЯЛІКДЗЕНЬ. сцэнарый свята

■ стар. 4 — 5

## Данчык: Я хацеў бы выпісаць «Культуру»

■ стар. 2

# ПАНЯДЗЕЛАК: ПАДЗЕІ, ІНФАРМАЦЫЯ, КАМЕНТАР

## МЫТНІК СПЫТАЎ: «ДУ Ю СПІК РАШЭН?..»

*Журналісты — таксама людзі, толькі іх пачуцці ўзмацняюцца яшчэ і прафесійным азартам: чаго не зробіш дзеля паважанага чытача! Нават бензіну, такога супердэфіцытнага сёння, не шкада, абы здабыць сенсацыйны матэрыял для газеты.*

*Мы імчым на сустрэчу з Данчыкам! Ён прыехаў у Мінск на святкаванне 75-х угодкаў БНР. На ўрачыстасцях да яго не падступіліся б, таму мы карыстаемся шчаслівым выпадкам: дзякуючы тэлефоннаму званку даведваемся, што Данчык будзе запісваць новую песню Зм.Яўтуховіча і В.Шніпа «Адраджэнне» разам з Анатолем Ярмоленкам, кіраўніком і салістам студыі «Сябры».*

*Машына наша прытарможвае ля будынка, дзе жыве славуты «сябар». І тут бачым... як павольна ад'язджае ад пад'езда чорная «Волга» з Данчыкам. У лепшых рэпарцёрскіх традыцыях кідаемся на пераслед. «Волга» спыняецца, але толькі на імгненне. Мы паспяваем убачыць абаяльную ўсмешку Данчыка і пачуць ад яго даверанай асобы: «За намі... у музей Багдановіча...»*

*Але па рэдакцыйных справах нам трэба ўбачыцца з Анатолем Ярмоленкам, які неўзабаве ад'язджае на гастролі. Ён паказвае нам толькі што запісаную і знятую на відэа новую песню. Бачыць на экране Данчыка — прыемна. Але ж ён патрэбны нам уласнай персонай.*

*Снегапад, які раптам абрынуўся з веснавога неба, засыпаў брук Траецкага прадмесця. Мокрыя, але бадзёрыя стукаемся ў дзверы музея. Адчыняюць. Данчык яшчэ тут.*

*Спадар А.Бяляцкі, дырэктар музея, спадарыня Г.Прыма, верная захавальніца спакою госця, Аляксей Анішчык — наш пастаянны аўтар з Вільні паспрыялі нам і далі магчымасць запісаць эксклюзіўнае інтэрв'ю з героем нашага рэпартажу. І вось дыктафон уключаны.*

**— З чаго Вы пачняце свой рэпартаж пра паездку ў Беларусь, калі вернецеся ў Мюнхен?**

— Яшчэ не думаў пра гэта, — разгубіўся Данчык. — У мяне ўвогуле нейкае дваістае пачуццё: прыехаў я сюды ў якасці карэспандэнта радыёстанцыі «Свабода», але журналіста Багдана Андрусішына «выпярэджвае» спявак Данчык. І цікавасць да мяне тут менавіта як да Данчыка. Задача журналіста — задаваць пытанні, але пакуль, бачыце, даводзіцца адказваць на іх.

**— І ўсё ж, якія Вашы першыя ўражанні?**

— Адбылося шмат самых розных сустрэч. Я пазнаёміўся з цікавымі людзьмі. І сённяшняя экскурсія ў музей вельмі моцна ўзрушыла. Я не спадзяваўся, што тут будзе ўсё так па-мастацку зроблена. Да слёз крануў расказ пра Багдановіча...

**— Сёння Вы запісалі новую песню?**

— Так, гэта таксама было для мяне нечакана. Селі ў машыну — і раптам мне гавораць, што едзем да спадара Ярмоленкі.

**— Гэта не першая песня ў Вашым выкананні на музыку Зм.Яўтуховіча...**

— Першая была «Калыханка». А гэту ён угаварыў мяне запісаць, хаця я ўжо больш як год не спяваю. Перад Зміцерам я не змог устаяць, прызнаюся, баяўся, што сваім сённяшнім выкананнем расчарую і сябе, і іншых.

**— А чаму Вы перасталі спяваць? Няма натхнення? Ці нейкія іншыя прычыны?**

— Ведаеце, можа таму, што з Амерыкі пераехаў у Германію. Новая праца, новае моўнае асяроддзе, і да таго ж я вельмі заняты падрыхтоўкай перадач. Раблю паўгадзінную праграму, у якой і панарама падзей, і расказы пра славутых асобаў, і апошнія навіны. Шмат працую ў студыі як прадзюсер. Вельмі цікавая праца. Цікавейшая за тую, якой я займаўся ў Нью-Ёрку. У апошнія два месяцы перад ад'ездам у Германію я запісаў новую кружэлку, бо прадчуваў, што на новым месцы са спевамі будзе цяжка.

**— А якія прычыны паўплывалі на тое, што Вы так рэзка змянілі прафесію?**

— Сапраўды, я працаваў шэсць гадоў у Нью-Ёрку як менеджэр, але некалі вучыўся менавіта на журналіста. Шчыра кажучы, не думаў, што вярнуся да гэтай прафесіі, тым больш не думаў, што буду працаваць на «Свабодзе». Раней, калі б мне зрабілі такую прапанову, я, мусіць, і не згадзіўся б. Проста пабаяўся б, што гэта закрые для мяне дарогу на Беларусь. Змянілася палітычная сітуацыя,і цяпер мая новая праца можа быць карыснай для Беларусі.

**— Вы маеце выдатную магчымасць з прафесійнага пункту гледжання ацаніць, як ставіцца да самастойнай Беларусі ў Еўропе і ў свеце. Што Вы можаце сказаць на гэты конт?**

— Па-першае, вельмі радуюць тыя палітычныя змены, якія адбыліся. Але... але гэта ўспрымаецца толькі як пачатак. Вельмі яшчэ далёка да таго, каб Беларусь сапраўды была Беларуссю. І залежыць гэта ад усіх нас. Ёсць пэўныя расчараванні, але і надзеі таксама ёсць.

**— А што расчаравала Вас, Багдан?**

— Не хацелася б падрабязна спыняцца на гэтым... Але першае расчараванне — змаганне ў рэспубліцы за двухмоўе. Я лічу недарэчнай пазіцыю тых, хто сцвярджае, што на Беларусі павінна быць яшчэ адна дзяржаўная мова акрамя беларускай. Расчараванне другое напаткала мяне адразу, калі я прыехаў. На лётнішчы, калі я прад'яўляў пашпарт, пачуў ад мытніка: «О, земляк, с Америки приехал...» Мытнік спытаў: «Ду ю спік рашэн?» Я падумаў — якое дурное пытанне, і адказаў, таксама па-ангельску, што размаўляю па-беларуску. А за мной стаяў нейкі чыноўнік амерыканскага ўрада, таксама чакаў сваёй чаргі. Магчыма, ён усё пачуў. Якія ж высновы зробіць чалавек пра краіну, дзе не лічаць за сваю — дзяржаўную мову? А з другога боку, калі ўспамінаць прыемныя моманты, мне спадабалася, што шыльды, надпісы вакол сталі ўжо беларускія.

**— І апошняе пытанне. Якія пачуцці ў Вас як у нашчадка аднаго са слынных дзеячаў славутага ўрада выклікала святкаванне на Бацькаўшчыне юбілею БНР?**



— На працягу ўсяго майго жыцця дзень 25-га Сакавіка мы ўрачыста святкавалі дома. З маленства я выступаў на гэтых святкаваннях то з вершамі, то з песнямі. І вось цяпер лёс падараваў мне магчымасць быць на юбілейных урачыстасцях у Мінску, на Бацькаўшчыне. Я прывёз прывітанне ад імя амерыканскіх беларусаў. На гэты раз я не песню, а вершам С.Палуяна «Хрыстос уваскрос!», які прачытаю на ўрачыстасцях са святочнай сцэны, хачу перадаць эмацыянальны настрой ад гэтай гістарычнай і ўзрушальнай для мяне падзеі.

Наш час, прызначаны для інтэрв'ю, скончыўся. Мы сталі развітвацца і на добрую памяць, ці, хутчэй, развітваючыся на працяг знаёмства, падаравалі Данчыку апошнія нумары нашай газеты.

Можа, і не зусім сціпла казаць пра гэта, але Багдану было прыемна. Таму пажаданні газеце з яго вуснаў прагучалі шчыра: «Пішыце ўсё, як ёсць, плённай вам працы!» І дадаў: «Я хацеў бы выпісаць «Культуру»...»

Вольга ШЧАДРЫНА.
Фотаздымкі Генадзя ЖЫНКОВА.

Для газэты «Культура» ад Данчыка 24.03.93 Менск

## БАЛЬ У ВОЛАНДА

27 сакавіка, у Міжнародны дзень тэатра, у Мінску адбылася вечарына. Веснавы баль быў наладжаны СТД Беларусі пры дапамозе Міністэрства культуры і Мінгарвыканкама ў памяшканні тэатра імя Янкі Купалы. Зала была паўнюткай. Радасны настрой, усмешкі, віншаванні аб'ядналі людзей, якія ці не ўпершыню сабраліся адзначыць яшчэ не зусім звыклае для нас свята. Цяпер яно будзе традыцыйным і для Беларусі. Менавіта да гэтага дня прымеркавана прысуджэнне



«Крышталёвая Паўлінка» — у Расціслава Янкоўскага.

двух прызоў СТД «Крышталёвая кветка» —за лепшы дэбют і «Крышталёвая Паўлінка» — за важкі ўклад у нацыянальнае тэатральнае мастацтва. Першым уладальнікам «Кветкі» стаў Марат Грыгорчык, малады, але вядомы саліст тэатра оперы і балета Беларусі. А «Крышталёвую Паўлінку» — 93 уручыла народнаму артысту Рэспублікі, народнаму артысту СССР



Расціславу Янкоўскаму — Стэфанія Станюта, якая летась упершыню атрымала гэты прыз. Можна было б сказаць, што вечарына ўдалася. Імправізацыйнае майстэрства акцёраў драматычных тэатраў, вытанчаная пластыка артыстаў балета, высокі прафесійны ўзровень вар'етэ «Серж», гумар музычнага калектыву «Калаж», — усё было разлічана на стварэнне свята тэатра. Але... назваць яго святам беларускага тэатра я не рызыкнула б. Запазычанасць мовы (гучала бадай што адна руская), вобразаў (віншаванні ішлі ад імя грэчаскіх багінь, якія апякуюць розныя віды мастацтва) і пэўная панская паблажлівасць спонсараў у дачыненні да акцёраў, якім яны ўручалі свае прызы, — псавалі настрой. Хочацца чуць родную мову з вуснаў любімых артыстаў розных тэатраў і ганарыцца іх высокай нацыянальнай культурай.

Думаецца, будучыя тэатральныя святы падораць нам менавіта такія ўражанні. А пакуль будзем лічыць, што усе хібы, якія былі на гэтай вечарыне — ад Д'ябла. Бо ён у выглядзе Воланда адкрыў сёлетні веснавы баль.

Наш кар.
Фота Генадзя ЖЫНКОВА.

## ГІСТОРЫЮ НЕ ПЕРАПІШАШ...

Сярод важкіх падзей, прысвечаных 75-м угодкам БНР, трэба адзначыць адкрыццё выставы «Жыве Беларусь» у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры ў Мінску. Вельмі патрэбная і карысная экспазіцыя, першая ў гісторыі музейнай справы Беларусі нарэшце стала замацавалася ў некалькіх залах музея.

Пры стварэнні экспазіцыі ставіліся дзве мэты: расказ пра Беларускую Народную Рэспубліку як сапраўднае дзяржаўнае ўтварэнне і агляд дакументаў, прысвечаных барацьбе дэмакратычных сілаў за абнаўленне дзяржаўнасці.

Вялікую справу зрабілі навукоўцы, даследчыкі, мастакі, фотамайстры, энтузіясты грамадскіх рухаў, сабраўшы цікавую і змястоўную інфармацыю. Рабочыя



«Крышталёвую кветку» Марату Грыгорчыку ўручае Аляксей Дудараў.

маніфестацыі 1905г., «Наша Ніва» — «першая беларуская газета з рысункамі, якая выходзіць раз у тыдзень рускімі и польскімі літарамі» (бачыце, з якіх імперскіх цянётаў вырывалася беларускае слова!), дзейнасць урада БНР, нешматлікія дзяржаўныя дакументы 1918г.; беларускія газеты, якія выходзілі ў 20 — 30-х гадах у Вільні, дакументы савецкіх часоў, у якіх занатавана нескаронае імкненне беларусаў «людзьмі звацца»; сведчанні наядаўніх гадоў аб стварэнні і дзейнасці нацыянальных грамадскіх арганізацый — усё гэта няпоўны пералік экспанатаў новай музейнай выставы. Хацелася б адзначыць тыя ўстановы, без, чыёй дапамогі немагчыма было б сабраць патрэбныя дакументы: Нацыянальны музей гісторыі і культуры РБ, Аб'яднанне літаратурных музеяў РБ, Дзяржаўны архіў РБ, Цэнтральны архіў літаратуры і мастацтва, Нацыянальны архіў РБ, Урадавая бібліятэка і КДБ.

І апошняе. Калі глядзіш на каштоўныя цікавейшыя экспанаты выставы, якімі не меў магчымасці карыстацца народ Беларусі, міжволі здзіўляешся, бо ўсе яны былі даступныя нашаму ўраду на працягу дзесяцігоддзяў. Амаль на палове ўсіх кніг, падручнікаў, газет стаіць сціплае паведамленне: Урадавая бібліятэка, КДБ. Шкада, што сённяшнія і нядаўнія ўрадавыя дзеячы не гарталі гэтыя рарытэты. Тады, магчыма, мы мелі б іншую гісторыю.

В.Ш.

У ТВОРЧЫХ САЮЗАХ

# «ДАЙЦЕ ЧАЛАВЕКУ КАВАЛАК ЗЯМЛІ..»

*Гутарка са старшынёй Праўлення Саюза архітэктараў Рэспублікі Беларусь Яўгенам КАВАЛЕЎСКІМ.*

**— Яўген Міхайлавіч, дзейнасць архітэктараў заўсёды мела непасрэдную сувязь з будаўніцтвам, а значыць — з прамысловасцю, з эканомікай. Як пачуваецца Саюз архітэктараў падчас цяперашняга спаду вытворчасці?**

— Раней мы ўсе працавалі ў планавай сістэме ў дзяржаўных праектных арганізацыях. Але ў апошнія гады Саюз архітэктараў перажывае новы этап, які, на мой погляд, вяртае архітэктурную творчасць у тыя звыклыя ёй, ужо даўно знаёмыя дойлідам усяго свету ўмовы дзейнасці. Я маю на ўвазе стварэнне персанальных творчых майстэрняў, якіх на Беларусі працуе ўжо прыкладна 150.

**— Хто фінансуе дзейнасць майстэрняў?**

— Ніхто. Проста творцы атрымліваюць права на самастойную працу, адкрываюць сваё прыватнае праектнае бюро, арганізуюць уласную базу, знаходзяць памяшканне, абсталяванне... Практычна людзі пачынаюць з нуля і дасягаюць адметных вынікаў. Робяцца выбітныя праекты. І я з гонарам гавару, што на фоне ўсіх нам вядомых палітычных з'яў, якія нішчаць культуру, у асяроддзі архітэктараў няма беспрацоўных, прынамсі мне яны невядомыя. Але, тым не менш, многія дойліды працягваюць працаваць у дзяржаўных праектных арганізацыях, а там і падае аб'ём работ, і людзі выходзяць «на вуліцу»... І каб гэта былі ўсе нашы праблемы! Раней творчыя саюзы мелі, а некаторыя — да гэтага часу маюць дзяржбюджэтныя датацыі. Такая падтрымка, як правіла, існуе ва ўсіх развітых краінах. А наш саюз сёння яе цалкам пазбаўлены.

**— На якія сродкі існуе Саюз архітэктараў?**

— Мы на так званым поўным гаспадарчым разліку, і сродкі існавання мусім здабываць самі. Каб не творчыя майстэрні, мы б, мусіць, загінулі. Новыя законы па падаткаабкладанні, здабытыя ў цяжкай двухгадовай барацьбе, дазволілі нам не пералічваць у даход дзяржавы прыбытак, які ўтвараецца ў працэсе дзейнасці майстэрняў, а накіроўваць яго на статутную дзейнасць саюза. Хацелася б спыніцца яшчэ на адным пытанні. Усе мы сваёй працай: адлічэннямі ад зарплаты, ад кошту праектаў, адзін у большай ступені, другі — у меншай, зарабілі каласальныя сродкі — так званыя асноўныя фонды, якія па нейкай



недарэчнасці цяпер лічацца дзяржаўнай уласнасцю. Я спадзяюся, што нарэшце настане час, калі людзі, якія зарабілі гэтую ўласнасць, змогуць ёю распараджацца. А зараз нашы майстэрні, не маючы гэтых сродкаў, паўтару, вымушаны пачынаць усё з самага нуля.

**— Відавочна, што творчыя майстэрні працуюць непасрэдна з заказчыкамі, а значыць, залежаць ад заказаў. Ці не можа падобная залежнасць прывесці да уніфікацыі праектаў?**

— Ні ў якім разе. Калі стварáліся майстэрні, мы нават слова «рынак» вымаўлялі шэптам, а слоў «камерцыя» і «канкурэнцыя» наогул баяліся... А цяпер мы імкнёмся да стварэння рынку праектных работ. І ў заказчыка з'явілася магчымасць выбіраць, які архітэктар — лепшы, дзе робяць больш якасныя праекты, дзе — таннейшыя. Рынак архітэктурных паслуг у выніку павінен прыводзіць да паляпшэння якасці архітэктуры. І мы бачым, што абраная стратэгія спраўджваецца.

**— У працэсе распаду імперыі рвуцца не толькі палітычныя і эканамічныя сувязі, але і культурныя. Мы ведаем, што паміж архітэктарамі ў былым СССР існавала плённае творчае супрацоўніцтва.**

— Архітэктары заснавалі новую арганізацыю — Міжнародную асацыяцыю. А нядаўна да нас прыязджалі члены Прэзідыума Саюза архітэктараў Літвы, і, здалося, што яны прыемна здзівіліся, пазнаёміўшыся з ходам спраў беларускіх калег. Не так даўно мы праводзілі першы міжнародны агляд-конкурс на лепшы архітэктурны твор года. Бралі ўдзел, натуральна, у асноўным прадстаўнікі СНД. Калегі прывезлі выдатныя праекты, сабралася прадстаўнічае журы, і мы з болем адзначылі, што трымаць сувязі зрабілася надзвычай складана... Напрыклад, мой стары сябра з Душанбэ Рустам Карымаў прыехаў і кажа, што пакінуў у камеры хавання аўтамат... Мы разумеем усе палітычныя акалічнасці, але прыкра, што яны накладаюць чорны адбітак на культурныя сувязі. Як ні дзіўна, але нам зараз прасцей наладжваць сувязі з краінамі Сярэдняй і Цэнтральнай Еўропы, чым з былымі суайчыннікамі. Мы разам думаем, як аб'яднаць высілкі ў барацьбе за абарону прафесіі, за стварэнне належнага асяроддзя на ўсім зямным шары, вырашыць неадкладныя эканамічныя праблемы ў будаўніцтве жытла для беднякоў. Хаця мы тут толькі для беднякоў і будавалі, не дазваляючы самім беднякам хоць штосьці зрабіць уласнымі рукамі, не разумеючы, што ніхто, акрамя саміх людзей, глабальныя праблемы жытла не вырашыць. Гадоў 5 таму ўдалося пабудаваць пяць пасёлкаў пад Мінскам. Едзьце, паглядзіце. Там сапраўдная светлая будучыня, а не ў камуністычным катэхізісе. А чаму? Таму што людзям была дадзена воля рабіць тое, што хочацца. Зараз невядома, хто і кім кіруе, якімі сіламі ствараюцца алігархіі, якія мафіёзныя структуры ўзніклі, якія дамінуюць мэты. А для звычайнага чалавека не робіцца нічога, хаця, здавалася б, ёсць просты шлях: дайце чалавеку кавалак зямлі, якой хапае ў нас на Беларусі, а чалавек ужо сам сябе праявіць.

**— Дойлідаў лічаць даволі дэмакратычнай часткай інтэлігенцыі, і ў той жа час, здаецца, Саюз архітэктараў не вельмі вострa рэагуе на «хвалі» палітыкі.**

— Нашы ўзаемаадносіны з палітыкай — пытанне даволі складанае, як бы дваістае. Сказаць, што мы зусім не займаемся палітыкай, ад якой непасрэдна залежыць культура, нельга. Разам з тым, мы абвясцілі і ўвесь час дэкларуем, што ў «перацягванні гужа над прорвай» брáць удзел не станем. І асабіста мне здаецца, што ў сувязі з падобнай пазіцыяй нас не трымае ні адзін, ні другі бок. Але мы — не нейтральнае балота! Мы вельмі востра ў сваім асяроддзі рэагуем на палітычныя імпульсы, і безумоўна, калі раптам па-сапраўднаму адчуем пагрозу над нашым грамадствам, над народам беларускім, то выступім з палітычнай праграмай.

**— Зараз шмат гаворыцца пра шляхі пабудовы суверэннай дзяржавы. Якой Вы бачыце сваю арганізацыю на гэтым шляху?**

— Мне здаецца, што зараз вельмі важна падвышаць прэстыж нашай дзяржавы. З 1938 года існуе Міжнародны саюз архітэктараў. Дык вось, Саюз архітэктараў Беларусі зараз выпадае з сусветнага супольніцтва з прычыны фінансавай. Прадстаўнікі ўсіх нармальных дзяржаў, у тым ліку і афрыканскіх, знаходзяць магчымасць каб збірацца на кангрэсы і вырашаць сусветныя ці рэгіянальныя праблемы. Мы ж мусілі звярнуцца да паважанага ўрада з просьбай выдзеліць сродкі — 6 тысяч даляраў, каб заплаціць складкі за мінулы і бягучы год. І атрымалі адмову... Вось вам і стаўленне нашай дзяржавы да ўдзелу сябе самой у прэстыжных міжнародных арганізацыях... А што тычыцца функцый Саюза архітэктараў, то яны засталіся нязменныя: развіццё дойлідства, архітэктурнай творчасці, падтрымка ролі Майстра, сацыяльная абарона творцы. Толькі, на жаль, выконваць гэтыя функцыі робіцца ўсё цяжэй.

**— Існуе думка, што творчыя саюзы — спараджэнне таталітарнай эпохі.**

— Існуе... Неяк з вуснаў вельмі паважанага мною дэпутата Вярхоўнага Савета прагучала, што творчыя саюзы ўяўляюць сабой сталінска-брэжнеўскае ўтварэнне. Я не буду цалкам адмаўляць гэтую думку. Сапраўды, таталітарная дзяржава імкнулася кіраваць культурай, і фінансавала яе, і ладзіла шыкоўныя прыёмы, і прызначала прэміі, і шчодра раздавала прыдворным творцам узнагароды. Але зараз мы ў вольным плаванні існуем толькі таму, што інтэлігенцыя, у прыватнасці — дойлідская, заўсёды імкнулася да нейкага аб'яднання, дзе можна было б вырашаць і абмяркоўваць свае спецыфічныя творчыя праблемы. Згадаю хаця б Таварыства санкт-пецярбургскіх архітэктараў, якому больш за 100 гадоў! Канешне, сістэма аб'яднання, іерархічныя пабудовы па прынцыпу партыі састарэлі. Але адзін у полі не воін, і кожнаму творцы абавязкова патрэбна «пачуццё локця», адчуванне пляча калегі. Менавіта чалавечыя каштоўнасці мусяць быць у аснове новай канструкцыі, а гэта і павага да ветэранаў, і падтрымка моладзі. У творчым саюзе камерцыя накіраваная найперш на падтрымку ўсяго лепшага, што створана за многія дзесяцігоддзі, на ўмацаванне самага дарагога, што ёсць у кожнага народа — той духоўнай спадчыны, якую ён перадае з пакалення ў пакаленне. Усё ж галоўны наш капітал — гэта духоўнасць, маральнасць, культура.

**— Вялікі Вам дзякуй. І поспехаў!**

Вяла гутарку Галіна БУЛЫКА.

Леанід ЛЫЧ
Уладзімір НАВІЦКІ

# ГАЛОЎНАЕ Ў ЛАНЦУГУ АДРАДЖЭННЯ

*(Працяг. Папярэдні артыкул чытайце ў № 12)*

Нацыянальна-духоўнае адраджэнне любога народа шмат у чым залежыць ад стану спраў у адукацыі. У далёкай старажытнасці мудрыя рымляне так казалі: «Рым будзе жыць, нават калі будуць дрэнныя шаўцы, але калі будзе дрэнная школа — Рым загіне». Пасляваенная практыка народнай асветы на Беларусі пераканаўча пацвердзіла, што рымляне мелі рацыю.

Рэформа сярэдзіны 80-х гадоў не прынесла зрухаў у галіне народнай адукацыі. І галоўная прычына заключалася ў тым, што рэформа не ўлічвала нацыянальна-культурныя, гістарычныя традыцыі беларускага народа. Паўсюдна панавалі аўтарытарнасць, ідэалагізацыя навучальна-выхаваўчага працэсу.

Зараз у рэспубліцы распрацавана і ажыццяўляецца дзяржаўная праграма дашкольнага нацыянальнага выхавання. У бягучым навучальным годзе 63,1 працэнта дзіцячых садкоў поўнасцю праводзяць навучальную і выхаваўчую работу на беларускай мове, у той час як у 1985г. на ёй працавалі толькі 19,3 працэнта дашкольных устаноў. Яны ахаплівалі 51,6 працэнта дзяцей, якія наведваюць дашкольныя ўстановы.

Пэўныя захады робяцца па паляпшэнні дзейнасці цэнтральнага звяна сістэмы адукацыі — агульнаадукацыйнай школы. Адметнай прыкметай апошніх гадоў з'яўляецца скарачэнне колькасці рускамоўных школ. Калі ў 1986/87 навучальным годзе іх налічвалася 1713 (30 працэнтаў), то ў 1992/93 — 397 (8 працэнтаў). Сёлета з агульнай колькасці 4953 школ 3141 (63,4 працэнта) працуюць на беларускай мове. На ёй жа атрымліваюць адукацыю 68,5 працэнта першакласнікаў супраць 28,9 у 1990/91 навучальным годзе.

Шмат цяжкасцей і перашкод стаіць на шляху пераводу на нацыянальны грунт прафесійна-тэхнічнай адукацыі, сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай школ. Існуе рэальная пагроза, што беларусізацыя іх навучальна-выхаваўчага працэсу будзе ажыццёўлена з істотным парушэннем вызначанага ў Дзяржаўнай праграме тэрміну развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў на Беларусі. І вельмі непакоіць, што змагаром за вышэйшую нацыянальную школу не стаў прафесарска-выкладчыцкі склад Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які мае багатыя традыцыі першай беларусізацыі. Сусветны вопыт сведчыць, што базіраванне школы на нацыянальным падмурку ніколі не перашкаджала дасягненню ёю стандарту вышэйшай адукацыі тэхналагічна і культурна развітых краін.

Плённыя захады па беларусізацыі ажыццяўляюцца ў Брэсцкім педагагічным інстытуце. З 1991/92 навучальнага года на шасці факультэтах дзённай і завочнай форм навучання ў вучэбныя планы ўключана новая дысцыпліна — беларусазнаўства. Дае яна студэнтам веды інтэграцыйнага характару аб Беларусі, новая дысцыпліна садзейнічае выхаванню ў іх пачуцця асабістай адказнасці за лёс Бацькаўшчыны.

Росту прэстыжнасці беларускай мовы спрыяе ўвядзенне ва ўсіх навучальных установах адпаведнага ўступнага экзамену.

Праўда, гэта правіла не распаўсюджваецца на тых, хто яе не вывучаў і не мае ў атэстаце адзнакі па беларускай мове, што пярэчыць самой ідэі нацыянальнай адукацыі і не садзейнічае павышэнню павагі да беларускай мовы з боку вучняў агульнаадукацыйных школ. Станоўча, што ў некаторых педагагічных інстытутах на беларускай мове ўжо прымаюцца дзяржаўныя экзамены па асобных прадметах. І ўсё ж абсалютная большасць вучэбных дысцыплін у вышэйшай школе яшчэ выкладаецца не на беларускай мове. Прыжыванню роднага слова карэннага насельніцтва рэспублікі ў ВНУ перашкаджаюць інертнасць і нацыянальная абыякавасць значнай часткі прафесарска-выкладчыцкага складу, які і сам не жадае ведаць беларускай мовы.

*(Працяг будзе.)*

*Зала ўпрыгожана ручнікамі, даматканымі посцілкамі; на сталах — святочныя пірагі, чырвоныя яйкі, галінкі вярбы. Гучыць радасная, светлая музыка. Выходзяць двое вядучых у нацыянальных строях.*



# НА ВЯЛ

**І вядучы:**
*Хрыстос васкрэс!*
*Усюды радасць,*
*Усё глядзіць смялей, святлей,*
*Вялікі мучанік, здаецца,*
*Абняў усіх ласкаю сваей.*
*Хрыстос васкрэс! Неугамонны*
*Плыве па нівах, пушчах клік,*
*Плыве адна святая думка*
*З канца ў канец, як свет вялік.*

**ІІ вядучы:**
*Хрыстос васкрэс!*
*К табе, о Божа,*
*І я ў дзень гэты просьбу шлю:*
*Хай Беларусь, мая старонка*
*Ўваскрэсне к вольнаму жыццю.*
**(Я.Купала)**

Да імправізаванай вясковай хаткі накіроўваецца гурт дзяцей. Дзеці гучна тры разы вітаюцца: «Хрыстос уваскрос!» Ім адказвае бабуля — гаспадыня хаткі: «Сапраўды ўваскрос!» Дзеці падбягаюць і цалуюць бабулю.

**Бабуля:** Дзякую, даражэнькія. Не забыліся, што сёння свята вялікае — Вялікдзень, прыбеглі сваю бабулечку павітаць.

**Дзеці:** Бабулька, любая, віншуем цябе са святам!

**Бабуля:** Дзякую вам, дзетачкі-кветачкі, мае красачкі любыя. Спяшаліся, яшчэ і сонейка не заззяла, а вы ўжо тут. Бачу, у вочках вашых яшчэ сон. І тварыкі не паспелі памыць. Тады падыходзьце бліжэй, будзем умывацца.

**Дзеці:** Ой, як цікава, а чаму так трэба мыцца?

**Бабуля:** А таму, што ў гэтае свята існуе шмат павер'яў. Раніцай, як толькі прачыналіся, мылі твар адварам, якім фарбавалі яечкі. Лічылася, што так чалавек ачышчаецца ад усялякіх нягод.

**Бабуля** (выносіць чыгунок і ставіць яго на стол, затым па чарзе прапаноўвае дзецям памыцца, прыгаворвае):

— Мыйце вочкі свае светлыя, каб тварыкі былі чыстыя, а шчочкі ружовыя, як яечкі. Каб жыццё ваша было чыстым і празрыстым, як крынічка лясная. Дай вам Бог вырасці здаровенькімі ды працавітымі людзьмі. Ну вось, вочкі засвяціліся радасцю, як зорачкі. І сонейка ўжо ўзышло, заглянула да нас у ваконца.

*Сонейка заззяла,*
*Над краем узышло,*
*З нябёсаў нам паслала*
*Святочнае цяпло.*
*Пачатак існай ранічкі —*
*Чароўнае праменне,*
*Святочная заранaчка —*
*Прыроды абуджэнне.*

Дык вось, дзеткі, на Вялікдзень існавала яшчэ адно павер'е, нібыта сонейка на першы дзень Вялікадня «іграе», струменіць праменьчыкі. Гэта свята ў гонар сонца, абуджэння прыроды і надыходу «вялікдзён» палявых работ. Пасля зімовага адпачынку людзі будуць сеяць, палоць, касіць, жаць, а яшчэ да гэтага свята прымеркавана хрысціянскае свята «Уваскрашэнне» ўкрыжаванага Хрыста. Давайце прывітаем сонейка і павіншуем са святам.

Дзеці, узяўшыся за рукі, праходзяць па кругу і спяваюць песню:

*Свяці, свяці, сонейка*
*Свяці, свяці, сонейка,*
*Каб нам было цёпленька,*
*Ай, люлі, люлі, люленькі-люлі*

(Дзяўчынка выносіць святочны пірог на ручніку.)

*Пад хаткаю седзячы,*
*Лусту хлеба дзержачы,*

(Бабуля выносіць яечкі.)

*Яечкі качаючы, песенькі спяваючы,*
*Ай, люлі, люлі, люленькі-люлі.*

(Пірог і яечкі ставяць на стол.)

**Бабуля:** А цяпер, мае любыя, запрашаю да стала. Снедаць будзем. Хачу вам нагадаць, што на Вялікдзень гатавалі багата страў, але пачыналі снедаць пасля таго, як кожны паспрабуе скрылёчак яечка, солі і хлеба. Таму запрашаю ўсіх адведаць свянцоную страву.

**Дзеці:** Дзякуй, бабулька, як усё смачна! А мы ведаем, што на Вялікдзень ходзяць у «жачкі».

**Бабуля:** Сапраўды, хадзілі некалі ў «жачкі». Адбывалася гэта так. Дзеці раненька ішлі па хатах, казалі гаспадарам шчырыя святочныя зычанні, жартавалі, дабраслаўлялі дом і ўсіх у доме, а ў хляве — скаціну.

**Дзеці:** Ой, мы таксама хочам схадзіць у «жачкі»!

**Бабуля:** Ідзіце. Вас ужо даўно чакаюць. Прыход дзяцей заўсёды прыемны, і вы будзеце гасцямі жаданымі, а за гэта ўсе вы атрымаеце пачастункі. А зычанні добрыя падрыхтавалі?

**Дзеці:** Падрыхтавалі! І механоша ў нас ёсць.

**Бабуля:** Так, так, і торбачку прыхапіце. Вас чакаюць пачастункі.

(Гурт дзяцей адпраўляецца ў першую хату. Звяртаюцца да гаспадароў.)

Гавораць па чарзе:

*А здрасце таму,*
*хто ў гэтым даму,*
*Гаспадынечцы і гаспадару.*
*Ці не супраць гаспадар,*
*Каб да вас завітаць,*
*Віншаванні свае перадаць?*
*Дай жа, Божа, гаспадару*
*Жыці, быці, весяліціся,*
*На Бога маліціся,*
*Добра пажывайце,*
*Бяды, гора не знайце.*

**Дзеці:**
*Я маленькі жачок,*
*Паўзу, як рачок,*
*Скачу, як жабка,*
*Дай яечка, бабка.*
*Не дасі яечка,*
*Уцячэ авечка,*
*Не дасі кока?*
*Вывернецца вока.*

**Дзеці:**
*А ты, бабка, паварочвайся,*
*Ды ідзі, бабка, у клець,*
*Прынясі, бабка, нам пару яек,*
*Ды пару яек усім жачкам,*
*Гэчка, гэчка,*
*Вылезь з падпечка,*
*Жачкі запрашаюць,*
*Падарункі чакаюць.*

(Гаспадары адорваюць дзяцей яечкамі.

Дзеці сардэчна дзякуюць.)

**Дзеці:**
*Дзякуй людзям гаспадарлівым,*
*Што ў працы дбайныя,*
*Шмат усяго маюць,*
*«Жачак» шчыра вітаюць.*
*А бывай здароў, жыві сто гадоў,*
*А жыві болей, мей сто коней.*
*Хадзі каля рэчак, мей сто авечак,*
*Хадзі каля ладак,*
*мей сто цялятак,*
*Хадзі каля нівак, мей сто свінак.*
*А мы госцікі недакучныя,*
*Недакучныя, ды нячастыя,*
*А ў гадок раз-разочак —*
*На вялікі дзень, на Вялікдзень.*

(Дзеці развітваюцца і вяртаюцца да бабулі.)

**Бабуля:**
*Людзям дабра пажадалі —*
*Вось і пачастункі атрымалі.*
*Ну, хуценька яечкі даставайце,*
*Ды ў гульню пагуляйце,*
*Але спачатку моц*
*яечак паспытайце.*
*А як гэта робіцца —*
*Няма каго саромецца,*
*Спачатку аб зубкі пастукайце,*
*Тады да вушка прыкладзіце —*
*паслухайце.*
*Калі яечка гудзе —*
*Значыць, моцным будзе,*
*А калі не, значыць нехта разаб'е.*
*Гульня «Біткі» называецца.*

**Дзеці:** Прапаноўваем нас падтрымаць, разам з намі ў «біткі» пагуляць.

**Бабуля:** Яшчэ адну гульню Вам хачу прапанаваць: чыё яйка коціцца далей, жыццё таго будзе доўгае і прыгожае.

А ў каго не атрымаецца, хай вельмі не засмучаецца. Ну, хто хоча свой лёс папытаць? Запрашаю пагуляць! (Дзеці круцяць, катаюць яечкі.) Напэўна, вас, дзеткі, у другіх хатах чакаюць, бо вы госці чаканыя, ва ўсіх сем'ях паважаныя.

(Зноў гучыць музыка. Выходзяць вядучыя.)

**І вядучы:** Так вось у першы дзень свята, з самай раніцы, хадзілі дзеткі ад хаты да хаты, стараючыся завітаць у кожную. Каб усіх гаспадароў з Вялікім Днём павіншаваць, а ў знак падзякі жачкі атрымаць.

**ІІ вядучы:** Свята наша працягваецца. Усе ў лепшае адзенне апранаюцца, пры сустрэчы паважна вітаюцца ды цалуюцца.

(Гучыць народная мелодыя «Ой, рэчанька, рэчанька».)

**ІІ вядучы:** Вось і вечар настаў. Каля крайняй хаткі гурт моладзі. Гаманкія, вясёлыя. Гэта, пэўна, валачобнікі. Ўграючы, спяваючы, багатага двара шукаючы, ідуць па вуліцы. А дапытаўшыся, прыйшлі яны пад вакно, да слаўнага пана, пана Івана.

**І вядучы:** А вялікі гаспадар пан Іван даўно чакае. Паджыдае ён светлых святачкаў-велікоднічкаў. Цэлы вечар чакае валачобнікаў у хату.

(Гучыць музыка, чуваць спевы. Прыходзяць валачобнікі. Яны падыходзяць да хаты Івана. Калі ёсць магчымасць — уключаецца выступленне ансамбля песні і танца. Выконваецца вакальна-харэаграфічная замалёўка «Валачобнікі».

Выходзяць удзельнікі ансамбля, віншуюць гаспадыню і гаспадара, выносяць пачастунак — піва, святочныя пірагі, яйкі. Запяваюць віншавальныя песні: «Вясна прыйшла», «Віншаванне гаспадару», «Нашая паненка», «Вясна-красна на ўвесь свет». Пасля заканчэння артысты нясуць на сталы пачастункі.)

**І вядучы:** Не паспелі адны валачобнікі выйсці з хаты, як з другога канца яшчэ ідуць...

(Пачынаецца выступленне валачобнікаў. Выходзіць гурт моладзі і спявае.)

**Пачынальнік:**
*На першы дзень, на Вялікдзень*
*Валачобнікі сабіраліся.*

**Усе пяюць:**
*Валачобнікі — людзі добрыя,*
*Небывалыя, пажаданыя,*
*Нячаста ходзім, нямнога просім,*
*Толькі ў гадочак адзін разочак!*

**Пачынальнік:**
*Ды пойдзем да першага двору,*
*Ці запросяць*
*да гаспадарскага столу.*
*У гэта вялікае свята —*
*Вялікдзень?!*
*З красным яечкам,*
*з цёплым кепечкам.*

**Падхватнік:**
*А мы ідзем, ідзем*
*пад багаты дом,*
*Пад багаты дом*
*«Дзень добры» даём,*
*Дзень добры таму,*
*хто ў гэтым даму!*
*Гаспадарочак, слынны паночак,*
*Ці спіш, ляжыш, ці адпачываеш?*
*Ці нас, валачобнікаў, дажыдаеш?*

**Запявала:**
*А ці ўслых табе нашы песенькі?*
*Валачобныя, велікодныя?*
*Калі няўслых, дык Бог з табою,*
*Калі ўслых, гукай са мною,*
*Адкрывай клямачку,*
*заві ў хатачку.*

**Гаспадар:**
*Перш чым зваць,*
*Час ужо і песню заспяваць,*
*Святочныя віншаванні сказаць.*

**Пачынальнік:**
*Дык чаго ж чакаць?*
*Ёсць што сказаць.*
*Гаспадар паважаны,*
*Людзьмі шанаваны,*
*Шмат дабра мае,*
*На чужое не спаганяе.*

**Падхватнік:**
*Дай жа, Божа, пану гаспадару*
*жыці, быці, шмат багацця нажыці,*
*Палавіну прадаці,*
*Частку валачобнікам даці.*

**Запявала:**
*Дай жа, Божа, пану гаспадару,*
*Табе і тваім гасцям,*
*Каб вы пілі і елі,*
*Вясёленька сядзелі,*
*Добрыя думкі мелі.*

(Спяваюць песню: «Ой, свят, свят, свят».)

**Падхватнік:**
*О то не, пане гаспадару,*
*Песня спета проці лета.*
*А будзь жа весел, як вясна-красна,*
*А будзь жа ціхі, як ціха лета,*
*А будзь жа багаты,*
*як багата восень.*
*А ты, гаспадынька,*
*усё ж дагадайся*
*Патэльню — у печ,*
*па яечкі — у клець,*
*Кавал сала прыхапі.*
*Прынясі ж нам кілбасы з шастом,*
*Кілбасы з шастом*
*ды свінню з хвастом.*

**Гаспадар:**
*Няма чаго даваць,*
*Самі пойдзем хутка жабраваць.*

**Пачынальнік:**
*Не скупіся, гаспадынька,*
*Некалі заможна жыла,*
*Усякага дабра займела,*
*Цяпер нешта паскупела...*
*Гаспадынька-журавінька,*
*Адары нас, не мары нас.*

# ІКДЗЕНЬ



Падхватнік:
*Дай кожнаму пеюну*
*Хоць па яйку,*
*Ну, пачынальніку дасі парачку.*

Пачынальнік:
*Нашаму механошу —*
*пірог як галёшу,*
*Ну і ў торбачку*
*яго гарачэйшага чаго.*

Запявала:
*У музыкі горкая доля:*
*Што даюць — бярэ і тое.*

Музыка:
*Ой, нясі, нясі кварту гарэлкі,*
*Кварту гарэлкі, сыр на талерцы,*
*А к таму сырчыку*
*пшонны піражок.*
*К таму піражку —*
*міску тваражку,*
*Кварта гарэлкі ой для голасу,*
*Пшонны піражок ой для коласу,*
*А міса тваражку для пажытачку.*

(Гаспадары адорваюць пачастункамі, валачобнікі спяваюць песню-падзяку.)

*А дзякуй гаспадару*
*за пшонны піражок.*

Пачынальнік:
*Дзякуй табе, пане,*
*за добрыя дары.*
*Каб дажыць да лета,*
*ды лепей за гэта.*

Запявала:
*Пойдзем у тую хату,*
*Дзе маладзі багата.*
*Хто нас тут чакае, хай запрашае!*

(Гурт ідзе да наступнага стала і спявае песню.)

*Валачобнікі — людзі добрыя,*
*Небывалыя, пажаданыя.*
*Нячаста ходзім, нямнога просім,*
*Толькі ў гадочак адзін разочак.*

Пачынальнік звяртаецца да дзяўчат:

**1-ай дзяўчыне:**
*Дай Божа, каб узрасла, ускрасла,*
*За добрага малайца замуж пайшла.*
*Проша даць, не жалаваць,*
*Каб было за што падзякаваць.*

**Падхватнік: 2-й дзяўчыне:**
*Каб панечка добра расла,*
*Каб на тое лета замуж пайшла,*
*Каб пані не ганьбіла,*
*На вяселле папрасіла.*
*А мы будзем малайцамі,*
*Будзем дараваць чырванцамі.*

**Пачынальнік 3-й дзяўчыне:**
*Просім, панечка, не гардзіцца,*
*Валачобнікам пакланіцца.*
*А у нас хлопцы спраўныя,*
*Пяюць песенькі забаўныя.*
*Бацьку, маці пакланіся,*
*Ды замуж папрасіся,*
*Знаем, што не прагадаеш,*
*Добрага мужа атрымаеш,*
*Добра будзеш жыць*
*І нас благаслявіць.*
*А пакуль трэба адарыць!*

(Дзяўчаты адорваюць валачобнікаў.)

Пачынальнік:
*Дзякуй вам, паненкі,*
*за добрыя дары.*
*Не будзем клясці,*
*што цяжка нясці,*
*А будзем хваліць,*
*што ўмееце дарыць.*
*А цяпер пойдзем у тую хату,*
*дзе жыве красуня багата.*

Пачынальнік:
*А лясь-пабразь у вакенца,*
*Выглянь, красуня, паненка.*
*Вось табе, Аленка, песня спета,*
*Песня спета проці лета,*
*Проці цёплага і вясёлага,*
*І вясёлага і здаровага.*
*Красна Аленка, не тамі гасцей,*
*Не тамі гасцей, падары хутчэй.*
*Кўрэц яек незлічоных.*
*А мы тыя яйкі самі пералічым,*
*Красну Аленку самі ўзвялічым.*
*Каб цябе, Аленка, камары не елі,*
*Камары не елі, мошкі не кусалі,*
*хлопцы цалавалі.*

Запявала:
*А вось у гэтай хаце*
*Мы будзем госці жаданыя,*
*Жывуць тут*
*гаспадары паважаныя.*

(Пяюць песню «Валачобнікі — людзі добрыя».)

Пачынальнік:
*Ці ў доме пані гаспадыня,*
*Гаспадынька прутка,*
*Сабірайся хутка,*
*Піражок пад пашку,*
*На стол пляшку.*
*Кілбасы не шкадуй,*
*Таксама пачастуй.*

(Гаспадыня частуе.)

Пачынальнік:
*Дай жа Божа пані гаспадыні*
*Жыці, быці, дзетак пажаніці,*
*Унукаў дачакаць*
*Ды нас у госці пазваць.*

Падхватнік:
*А колькі ў нас гасцей багата,*
*Што ні чалавек — то хата,*
*Спяшайцеся ў госці запрасіць,*
*Калі ёсць яшчэ чым дарыць.*

Механоша:
*А пакуль дзякуем*
*За тое, што адарылі,*
*Добрым словам прывіталі,*
*Са спагадай сустракалі.*

Музыка:
*Жывіце здаровы*
*ды будзьце багаты,*
*Ды не самі сабой,*
*дай з сваімі дварамі.*

Пачынальнік:
*Ды з сваімі ды са блізкімі,*
*І са блізкімі, і са дальнімі,*
*З пакрэўнымі ды прыяцелямі.*

(Дэкламуюць пад музыку, кланяюцца і адыходзяць.)

*Ой, свят вечар, свят!*
*Ой, дзе нашы хлопцы*
*Пайшлі вандраваці.*
*Свят вечар, свят!*
*Ой, свят вечар, свят!*
*Пайшлі вандраваці,*
*Лета даганяці.*
*Свят вечар, свят!*
*Ой, свят вечар, свят!*
*На новае лета,*
*Радзі, Божа, жыта,*
*Свят вечар, свят!*
*Ой, свят вечар, свят!*
*Ой, жыта, пшаніцу,*
*Усякую пашніцу,*
*Свят вечар, свят!*
*Ой, свят вечар, свят!*
*Ой мы вандравалі,*
*У акно заглядалі,*
*Свят вечар, свят!*
*Ой, свят вечар, свят!*
*Ой, што бабка напякла,*
*Прынясі нам да вакна!*
*Свят вечар, свят!*

(Раздаецца стук у дзверы.)

**І вядучы:** Ой, вы толькі паглядзіце! Не паспелі яшчэ гэтыя з хаты выйсці, а ўжо ізноў нехта ідзе.

(Заходзіць Адольф Быкоўскі, вешае паліто, здымае галёшы.)

**Быкоўскі:** Пахвалёны ў хату.

**Госці:** Навекі, навекі.

**Быкоўскі:** Выбачайце, што трошкі запазніўся, але гэта вінаваты мой жарабец. Як панёс з гары, што каля парку, і мяне выкінуў, і вось зламаў, так што мусіў другую каламажку ўзяць, праз тое і замарудзіў.

**Вядучая:** Проша, проша далей праходзьце!

**Быкоўскі:** Дзякую, дзякую, вашэці! Прошу са мной клопату не рабіць. (Ідзе, з усімі вітаецца, гаспадыні цалуе руку.)

**Вядучая:** Можа, вып'еце і чаго закусіце?

Вось я зараз вас пачастую.

(Бярэ булку, піва, падносіць Быкоўскаму.) Ну, як, падмацаваліся трохі? А то мне ўжо ногі чэшуцца. Так і хочацца з панам Адольфам сыпнуць «Лявоніху».

**Быкоўскі:** Фі! Я такіх мужыцкіх танцаў не гуляю!

**Вядучая:** А якія ж вы танцуеце?

**Быкоўскі:** Гэц-польку, Падзіспаць, Манчыс, Падзі-кварту. Ну, што ж, паненачка, паспрабуем?

**Вядучая:** Калі ж я гэтых мудрых танцаў не толькі не ўмею, але ніколі нават і не бачыла!

**Быкоўскі:** Не бойцеся! Я на ўсе лады навучу паненку скакаць! Гэй, музыканцікі, зайграйце нам гэц-польку.

**Музыкант:** Мы гэта не ўмеем.

**Быкоўскі:** Ну, дык падзіспаць.

**Музыкант:** Першы раз чую.

**Быкоўскі:** Вось дык музыканты, такіх танцаў не ведаюць. Не хвалюйцеся, Паўлінка, я буду вытылінгаваць на ензык, а васпанна толькі прыслухоўвайся ды вырабляй нагамі так, як я.

(Быкоўскі спрабуе нешта наігрываць языком, робіць некалькі рухаў, але нічога не атрымліваецца.)

**Вядучая:** Ах, пан Адольф, давайце лепей станцуем наш танец, які ўсе ведаюць. Ну, музыканцікі, рэжце!

(Музыканты пачынаюць іграць кракавяк, вядучыя запрашаюць усіх танцаваць. Прысутныя танцуюць яшчэ некалькі танцаў. У зал уваходзіць Агата.)

**Агата:** Добры вечар усім вам, людзі добрыя! Колькі вас тут многа назбіралася! А ці не бачылі вы дзе-небудзь тут майго Пранцыся? Гэта ж трэба, тудэма-сюдэма, як паехаў пазаўчора на кірмаш, то й дагэтуль не вярнуўся. Напэўна, тудэма-сюдэма, да вас у карчму завітаў.

**Госці:** А вы, цётачка, самі пашукайце, бачыце, колькі іх тут сабралася!

(Агата праходзіць па зале, шукае свайго Пранцыся. Тут яна заўважае Пранцыся за адным сталом, падбягае да яго з кулакамі.)

**Агата:** Ах, ты ёлупень стары, дык чаго ж ты, тудэма-сюдэма, не свянцоная костка, рассеўся, як у сваёй хаце!

**Пранцысь** (пацягваючы з бутэлькі піва, падымаецца з-за стала, адыходзіць да мікрафона): Глупства, глупства, «вось-цода», пасвенцім собственна пані дабрадзею, калі не свянцоная.

**Агата** (хоча вырваць пляшку, але Пранцысь не дае):

— Вось я цябе зараз, тудэма-сюдэма, як высвянчу гэтай пляшкай па галаве, дык і сваіх не пазнаеш! Няшчасны ты, «вось-цода»! А божа ж ты мой, бацюхна мой! Нашто мяне пакараў гэтай, тудэма-сюдэма, п'яніцай, гэтай недарэкай, гэтай куксамордай...

**Пранцысь:** Каб з цябе ваўкі скуру дралі, калі ты дзярэшся пры людзях у такое вялікае свята!

(Падыходзіць вядучая.)

**Вядучая:** І праўда ж, цётачка Агата, сёння такое вялікае свята, а вы ўсё сварыцеся, ніяк не памірыцеся. Што ў вас гэткае здарылася?

**Агата:** Дык ці ведаеш, мая даражэнькая, гэта ж, чапяла старая, як паехаў пазаўчора на кірмаш, так і прапаў, каб на яго трасца напала. А ён, вось бачыш, зайшоў сюды, сядзіць і піва пацягвае. (Звяртаецца да Пранцыся.) Ах ты, анціхрыст, каб табе моль пяты пабіла і з месца не скранула! Ці ж гэту, тудэма-сюдэма, трухлявую калоду зрушыш з месца?

**Вядучая:** А вы, цётачка, не чапайце яго, няхай сабе сядзіць, сёння такое свята вялікае. Бачыце, колькі людзей сядзіць. Цётачка Агата! А што гэта ў вас у кошыку ляжыць?

**Агата:** Гэта, дачушка, стравы велікодныя, я іх у царкве пасвянціла, магу і вас пачаставаць.

(Агата дастае з кошыка яйкі, булкі, кілбасы, два жбаночкі.)

**Вядучая:** А ў гэтых жбаночках што ў вас?

**Агата:** А гэта медавуха.

**Вядучая:** А ці можна паспрабаваць, я вельмі люблю яе!

**Агата:** Ну чаму ж не можна, частуйся вось. (Вядучая адкрывае гаршчочак).

**Вядучая:** Цётачка Агата, дык тут жа нейкія паперкі ляжаць.

**Агата:** Ах, ты, як гэта я запамятала? Гэта ж новая гульня.

**Вядучая:** Гульня? Давайце пагуляем! (Вядучая праводзіць гульню.)

**Вядучая:** Пан Адольф, я чула, што вы пекны голас маеце? Можа, спеяце нам што-кольвечы?

**Быкоўскі:** Хэ, які там пекны, ось так сабе! Канешне, лепшы, як у іншых!

**Вядучая:** Дык проша спець, пан Адольф, калі ласка!

**Быкоўскі:** Ну, дык калі ўжо так пекна просіце, тады можна. Якую б панна Паўлінка хацела?

**Вядучая:** Усё роўна, хоць якую. Ну, якая лепей у пана Адольфа выходзіць.

**Быкоўскі** (махаючы хустачкай каля твару, пяе няскладна):

— Плывае голэмбі, лётае лабэндзе.

**Вядучая** (перабіваючы Адольфа): Ці гэта голэмбі плаваюць, а лабэндзе лятаюць?

**Быкоўскі:** Ну, калі перабіваеце, дык зусім не буду пець. Спявайце самі. (Адольф надзьмуўся, сеў за стол.)

**Вядучая:** Дык і спяём. Калі пан Адольф такі някемкі, што нават жартаў не разумее. Давайце пакажам пану Адольфу, на што мы здатныя. (Зала дзеліцца на дзве паловы. Адна палова залы спявае адну песню, другая — другую.) (Прыз — агульны танец.)

Праводзіцца яшчэ некалькі гульняў.

1. Катанне яек.
2. Вазьмі свой прыз.
3. Паляванне на льва.

Сцэнарый падрыхтавалі
Марыя ПОЛАЗ
і Ларыса САРОКІНА,
метадысты Цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў,
г.Маладзечна.

**Генры Дэйвід ТОРА (1817 — 1862) — выдатны амерыканскі пісьменнік, аўтар вялікай кнігі «Уолдэн, ці Жыццё ў лесе» (1854). Разам з Ралфам Уолда Эмерсанам ды Натаніэлем Готарнам належаў да найбольш яркіх прадстаўнікоў трансцэндэнталізму —уплывовае плыні ў амерыканскай літаратуры XIXст., галоўная рыса якой — пратэст супраць утрыраванага рацыяналізму і утылітарызму. Многія трансцэндэнталісты самахоць адмовіліся ад пераваг, якія мелі дзякуючы свайму грамадскаму становішчу ды адукацыі, каб наблізіцца да прыроды, пераадолець прыгнёт будзённасці, паспрабаваць ажыццявіць свае сацыяльныя ідэі.**

**Чалавек нараджаецца вольным, пісаў Тора, а людзі пнуцца змусіць яго ўступіць у іхнюю змрочную і недарэчную супольнасць.**




# Генры Дэйвід ТОРА




Мне хацелася б сказаць колькі слоў у абарону некранутае Прыроды і абсалютнае свабоды, такіх адрозных ад прыроды, асвоенай чалавекам, і ад свабоды грамадзянскага стану. Я хацеў бы зірнуць на чалавека не як на члена грамадства, а як на насельніка Прыроды і яе неад'емніка...

За ўсё сваё жыццё я не сустрэў нават двух чалавек, абазнаных як след у хадні пешкі, інакш кажучы, у праходках, людзей, у якіх быў бы талент да бадзяння (sauntering). У слова гэтага цікавае паходжанне. У сярэднявеччы людзі бадзяліся па краіне і прасілі подаўку пад тым прэтэкстам, што яны кіруюцца а la Sainte terre, у Святую зямлю. Дзеці крычалі ім услед: «Вось ідзе Sainte-Terrer («святазямелец»). Тыя, хто ў праходках сваіх ніколі не кіруюцца ў Святую зямлю — няхай яны і сцвярджаюць, што гэта не так, — і ёсць сапраўдныя бадзягі і абібокі. Сапраўдныя аматары прагулак у добрым сэнсе гэтага слова — тыя, хто туды кіруюцца. Але некаторыя лічаць, што слова гэтае паходзіць ад sans terre, г.зн. «без прыстанку». З гэтага вынікае, што яно мае станоўчае адценне і азначае: «Той, хто не мае пэўнага дому, аднак усюды пачуваецца як дома». Менавіта ў гэтым — сэнс нетаропкае хадні пешкі... Кожная праходка — нешта накшталт крыжовага паходу. Пётра-адзінотнік, што сядзіць у нашае душы, загадвае нам ісці наперад і адваёўваць гэтую Святую зямлю ў няверных.

Праўда, усе мы — нясмелыя хадакі, нават тыя з нас, хто любіць хадзіць пешкі: цяпер мы ўжо не насмельваемся на бясконцыя, утомныя паходы. Нашыя паходы — усяго толькі вылазкі. Увечары мы вяртаемся дахаты, да свайго агеньчыка, туды, адкуль выйшлі ўранку, прычым палову шляху мы праходзім назад па сваіх уласных слядох. Няхай шлях наш не будзе доўгі, аднак мы павінны ісці ўперад, апанаваныя духам вечнае прыгоды, гатовыя ніколі не вяртацца...

... У нашых краёх, бадай, больш ніхто не практыкуецца ў гэтым высакародным мастацтве, хаця бальшыня жыхароў гарадка былі б радыя хадзіць пешкі, як і я — так яны, ва ўсякім разе, кажуць, — але, па сутнасці, яны на гэта няздатныя. Ні за якія грошы не купіць неабходныя дзеля гэтага свабоду, вольны час ды незалежнасць — складнікі капіталу тых, хто належыць да гэтага ордэна. Ён пасланы нам знаўзвышы. Рыцарам гэтага ордэна можна стаць адно з ласкі Боскай. Трэба нарадзіцца ў сям'і Хадакоў. Ambulator nascitur, non fit[1].

Я думаю, што не змагу захаваць здароўе і бадзёрасць духу, калі не буду штодня гадзіны па чатыры, а то і болей, бадзяцца па лесе, па пагорках і палёх, зусім забыўшыся на зямныя справы. Як згадаю, што гандляры ды розныя майстры бавяць у закрытым памяшканні не толькі ўвесь ранак (сядзяць, скрыжаваўшы ногі — нібыта ногі дзеля таго і дадзены нам, каб на іх сядзець, а не стаяць альбо хадзіць), — мне становіцца відавочным, што ўсім ім трэба аддаць належнае ўжо адно за тое, што яны дагэтуль не пазбавілі сябе жыцця[2]...

Жанчыны выходзяць з дому яшчэ радзей за мужчын...

... У час праходак, думаючы на хаду, мы, мабыць, нагадваем чымсьці вярблюда, які, наколькі вядома, — адзіная жывёліна, што жуе на хаду. Калі нейкі падарожнік папрасіў служанку Вордсварта[3] паказаць яму кабінет гаспадара, яна адказала: «Вось ягоная бібліятэка, а кабінет ягоны — прырода»...

Чаму так цяжка бывае вырашыць часам, куды пайсці на праходку? Я веру, што ў Прыродзе існуе няўлоўны магнетызм, і, калі бессвядома яму падуладзіцца, ён дасць нам патрэбны напрамак. Зусім не ўсё роўна, дзе гуляць. Ёсць патрэбны шлях, аднак з неразумнасці і легкадумнасці мы выбіраем шлях падманны. Мы гатовыя ісці той сцяжынаю, якою ніколі не ішлі ў сапраўднасці, але якая сімвалізуе наш шлях у свеце духоўным, ідэальным. Часам цяжка выбраць накірунак, бо ён яшчэ не абвызіўся ў нашае свядомасці.

Калі я выходжу на праходку, не ведаю яшчэ, куды рушыць, і аддаюся на волю інстынкту, дык выяўляю — як гэта ні здасца дзіўным і незвычайным, — што ў рэшце рэшт непазбежна трымаю шлях на паўднёвы захад, у бок якога-небудзь лесу ці поплаву, альбо выпасу ці пагорка. Стрэлка майго компаса доўга не можа спыніцца, адхіляецца на некалькі дзяленняў у той ці іншы бок. Яна, праўда, не заўсёды паказвае дакладна на паўднёвы захад —і на гэта ёсць свая падстава. Там для мяне ляжыць будучыня. Зямля ў тым баку здаецца больш цнатлівай ды багатай. Мой шлях у час праходкі ўяўляе сабою не круг, а парабалу ці, бадай, нагадвае шлях каметы, што ляціць, як мяркуюць, па незамкнёнай крывой. У маім выпадку гэтая крывая ідзе ў бок захаду, а месца сонца ў схеме маіх падарожжаў займае дом. Часам я ажно чвэрць гадзіны тапчуся на месцы, пакуль не вырашу ў тысячны раз рушыць на паўднёвы захад ці захад. На ўсход я змушаю сябе ісці намаганнем волі, а на захад іду без прынукі. У мяне там няма аніякае справы. Я не веру, што на ўсходзе за лініяй гарызонту я знайду прыгожыя краявіды, адносна дзікія мясціны і вольніцу. Праходка ў тым накірунку не натхняе мяне. Аднак я веру, што лес, бачны на даляглядзе, цягнецца да самага захаду сонца, што ў ім няма якіхсьці значных гарадоў ці селішчаў, якія паўсталі б на маім шляху. Дайце мне жыць там, дзе я хачу. Няхай з аднаго боку будзе горад, а з другога — дзікая прырода. Я ўсё часцей сыходжу з горада і выдаляюся на прыроду. Я не гаварыў бы пра гэта так шмат, каб не адна акалічнасць: мне здаецца, нешта накшталт гэтага стала тэндэнцыяй-дамінантаю сярод маіх суайчыннікаў. Я павінен ісці ў бок Арэгона[4], а не Еўропы. У гэтым накірунку рушыць цяпер Амерыка. Я магу сказаць, што з усходу на захад вядуць і шляхі развіцця чалавецтва. На працягу некалькіх гадоў мы сталі сведкамі такое з'явы, як міграцыя аўстралійскага насельніцтва на паўднёвы ўсход пры засяленні Аўстраліі. Але нам гэта здаецца рухам наўпопяць. Фізічныя ды маральныя якасці першага пакалення аўстралійцаў не дазваляюць нам лічыць гэты эксперымент паспяховым. Усходнія плямёны вераць, што на захад ад Тыбета нічога няма. Яны кажуць: «Там канец свету. За Тыбетам нічога няма, апрача бязмежнага мора». Яны жывуць у свеце абсалютнага Усходу.

Мы накіроўваемся да ўсходу, каб зразумець гісторыю і вывучыць творы мастацтва і літаратуры, паўтараючы пры гэтым шлях, пройдзены нашымі продкамі, аднак у адваротным напрамку. На захад мы ідзём, як у будучыню, адчуваючы сябе найсмялейшымі шукальнікамі прыгодаў. Атлантычны акіян падобны да Леты: пераплыўшы цераз яго, мы мелі магчымасць забыць Стары Свет і ягоныя інстытуты. Калі гэтым разам тое не ўдасца, у нашае расы застанецца яшчэ адзін шанец, перш чым яна дасягне берагоў Стыкса: у нас ёсць яшчэ Лета Ціхага акіяна, у тры разы шырэйшая.

Не ведаю, наколькі гэта незвычайна і наколькі важна, каб асобны чалавек узгадняў такім чынам нават самую кароткую сваю праходку з агульным накірункам, у якім рушыць раса, але ведаю, што нешта падобнае да інстынкту, што кіруе пералётамі птушак і міграцыямі чатырохногіх (...), нешта падобнае да вар'яцтва, што ахапляе худобу ўвесну (гэты факт тлумачаць з'яўленнем у яе глістоў), уплывае і на рух асобных людзей і народаў, пастаянна ці час ад часу. Над нашым гарадком не чуваць гогату дзікіх гусей, і гэта ў нейкай ступені зніжае кошт нашых надзелаў; калі б я быў агентам па продажу нерухомасці, дык, пэўна, улічыў бы гэты недахоп...

Кожны захад сонца, якім я захапляюся, прасякае мяне жаданнем ісці на захад — такі ж далёкі і цудоўны, як той, у які садзіцца сонца. Яно рухаецца на захад штодня і, відаць, спакушае нас ісці за ім. Гэта Вялікі Скаральнік Захаду, піянер, за якім кіруецца нацыя. Кожнае ночы мы бачым у сне горныя ланцугі на даляглядзе (няхай гэта будзе толькі туман), якія залоцяцца апошнімі промнямі сонца. Востраў Атлантыда, астравы і сады Гесперыд, гэтыя куточкі зямнога раю былі, напэўна, для нашых далёкіх продкаў Вялікім Захадам, ахутаным мроівам таямніцы і паэзіі. Хто, гледзячы на неба ў час захаду, не маляваў у сваім уяўленні сады Гесперыд і ўсё тое, што сталася асноваю ўсіх гэтых паданняў?

Калумб мацней, чым хтось да яго, адчуў гэтую тэндэнцыю рушыць на захад. Ён падуладзіўся ёй і адкрыў Новы Свет...

Калі я кажу «Захад», дык маю на ўвазе дзікую прыроду. А цяпер я падышоў нарэшце да галоўнае сваёй думкі: захаванне нашага свету залежыць ад таго, ці захаваем мы дзікую прыроду... Нашы продкі былі дзікунамі. Гісторыя Ромула і Рэма, ускормленых ваўчыцаю, — не проста неверагоднае паданне. Заснавальнікі кожнае дзяржавы, якая дасягнула магутнасці, жывіліся сілаю з крыніц, блізкіх дзікай прыродзе. Сыны імперыі былі пакораныя і раскінутыя па свеце сынамі паўночных лясоў менавіта таму, што ў адрозненне ад іх не былі ўскормленыя ваўчыцаю.

Аднойчы летась у лістападзе я назіраў незвычайны захад сонца. У канцы халоднага шэрага дня я ішоў па поплаве, дзе цячэ невялікі ручай; сонца, перш чым сесці, выкацілася на чысты край вечаровага неба, і надзвычай мяккі, яркі прамень асвяціў сухую траву і галамні дрэваў на даляглядзе, лісце кустоўя на адхоне пагорка, адкінуў далёка нашыя цені, якія леглі цераз увесь поплаў у бок усходу, усё роўна як мы былі адзінымі пылінкамі ў ягоных промнях. То праменіла святло, якое немажліва было ўявіць яшчэ хвілю назад, а паветра было такое цёплае ды ціхае, што нішто не замінала нам уявіць сябе ў раі. Але калі мы падумалі, што гэта быў не адзіны вечар, што так будзе паўтарацца бясконца безліч вечароў, што кожнае дзіця, якое тут пройдзе, будзе радавацца-супакойвацца, ён здаўся нам яшчэ дзіўнейшым.

Сонца садзіцца на прыгожы дзікі поплаў, дзе не відаць чалавечага жытла, і вылівае на яго ўвесь свой бляск ды пекнату, якія гэтак шчодра аддае гарадам. Мажліва, так яно яшчэ ніколі не садзілася. Там лётае адзінокі балотны коршак, чые крылы залоціць сонца, андатра выглядвае з сваёй хаткі, пасярод дрыгвы там цягнецца ручаёк, ён толькі пачынае звівацца, спадзіста агінаючы гнілы пень. Мы ішлі ў такім чыстым, ясным святле, што залаціла пабляклую траву і лістоту, такім мяккім ды ціхамірна-празрыстым, і я падумаў: ніколі яшчэ не акунаўся ў такі залацісты паток, на паверхні якога не было б ані зморшчынкі, дзюрчэння якога не было б чуваць. На захадзе кожны самы маленькі гай, кожны пагорачак свяціліся адбітым святлом, як брама раю, а сонца за нашымі спінамі здавалася добрым пастухом, які гнаў нас увечары дамоў.

Так мы ідзём у Святую зямлю, і, мажліва, аднаго разу сонца заззяе ярчэй, чым раней, пральe сваё святло ў нашыя галовы і сэрцы і асвеціць усё нашае жыццё вялікім святлом абуджэння, такім роўным ды залацістым, якім увосень асвятляе бераг ракі.

**Пераклаў з ангельскае мовы Алесь АСТАШОНАК.**

1 Хадакамі нараджаюцца, а не становяцца (лац.).
2 Мяркую, гэта не менш датычыць і людзей разумовае, і механічнае, і творчае працы. (Заўвага перакладчыка.)
3 Вордсварт Уільям (1770 — 1850) — ангельскі паэт-рамантык, выдатны прадстаўнік «азёрнае школы».
4 Арэгон — штат на ціхаакіянскім узбярэжжы ЗША.




# РЭПРЭСАВАНАЯ... МАНДАЛІНА

Відаць, ва ўсе часы нашай гісторыі існавалі струнныя інструменты, бо душу чалавека вабіць іх пяшчотнае і празрыстае, яскравае і пругкае гучанне. Самыя старажытныя з роду так званых шчыпковых інструментаў — лютні — былі вядомыя ў свеце яшчэ да новай эры. Ад лютні паходзяць сучасныя гітары і мандаліны. Але калі гітара — і зараз адзін з самых папулярных інструментаў, то мандаліна ў наш час амаль знікае.

У мінулым стагоддзі і ў першай палове нашага мандаліна была распаўсюджана на Беларусі. Аб гэтым сведчаць людзі больш сталага веку, якія альбо самі гралі на мандалінах, альбо чулі, як гралі на іх бацькі і дзяды. У тыя часы ў многіх сем'ях як у гарадах, так і ў вёсках красаваліся на сцяне гітара ці мандаліна, упрыгожаныя вялізным бантам. Вечарамі месцічы збіраліся і адпачывалі, ігралі, спявалі. Часцей за ўсё мандаліна гучала разам з гітарай, але ж складаліся і ансамблі мандаліны з акардэонам, са скрыпкай, цымбаламі, балалайкай.

Нашы вядомыя даследчыкі-этнамузыказнаўцы, вывучаючы аўтэнтычны фальклор, бываюць у розных кутках рэспублікі. Сустракаюцца ім сярод прадстаўнікоў аматарскага інструментальнага мастацтва і мандалістаў. Аб гэтым сведчаць І.Назіна, Л.Касцюкавец, А.Скарабагатчанка і іншыя. Але вось сумны факт: выканаўцы-мандаліністы ў большасці сваёй — людзі сталыя. А што ж моладзь?

Вядома, што музычнае выхаванне і навучанне ў нас на даволі высокім узроўні. Беларуская школа музыкантаў-выканаўцаў прызнана цяпер, калі мы, прадстаўнікі незалежнай дзяржавы, атрымалі магчымасць свабодна дэманстраваць яе ў свеце, адной з самых высокапрафесійных. За мінулы год, калі ўдзел у міжнародных конкурсах быў магчымы «напрасткі», мінаючы Маскву, многія нашы выхаванцы сталі лаўрэатамі на розных конкурсах, «абышоўшы» прадстаўнікоў былых «галоўных сталіц» (піяністы, вакалісты, духавікі, скрыпачы, віяланчэлісты, баяністы, цымбалісты, дамрысты).

Здаецца, каб мы выкладалі ў школах, вучылішчах і ВНУ ігру на мандаліне, дык не знікала б у нас і аматарскае мастацтва. Але чаму ж мы не маем такіх класаў у навучальных установах? Аказваецца, у 40-я гады быў выдадзены загад, які забараніў навучанне на мандаліне, маўляў, гэта інструмент заходняга паходжання, «чуждый социалистической культуре». І вось ужо амаль паўвека мандаліне не надаецца аніякай увагі. Зніклі цікавыя аркестры, ансамблі, салісты. У час адраджэння нацыянальнай культуры, гістарычных традыцый неабходна аднавіць аматарскае мандалiннае мастацтва і развіваць гэтае мастацтва на прафесійным узроўні.

У красавіку 1992 года ў рэспубліцы з'явілася новая грамадская арганізацыя музыкантаў — Асацыяцыя беларускіх дамрыстаў і мандалістаў (АБДМ). Устаноўчая канферэнцыя ў Мінску, на якой прысутнічалі прадстаўнікі 23 гарадоў і населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь, у сваёй Пастанове запісала аб неабходнасці з'яднаць намаганні беларускіх дамрыстаў і мандалістаў.

Нельга сказаць, што да ўтварэння АБДМ мандаліна зусім не гучала з прафесійнай сцэны. Нашы лепшыя выканаўцы-дамрысты неадночы бралі ў рукі мандаліны, каб выканаць класічныя творы, напісаныя менавіта для мандаліны Вівальдзі, Бетховенам, Гумелем, Гасэкам, Пракоф'евым і інш. Салістамі-мандалiністамі выступалі прадстаўнікі нашай беларускай школы: лаўрэат Міжнароднага і Усесаюзнага конкурсаў Мікола Марэцкі, дыпламант рэспубліканскага конкурсу Леанід Чарняк, лаўрэат прэміі ЛКСМБ Яраслаў Валасюк, лаўрэат конкурсу імя І.Жыновіча Ю.Валіцкі і інш.

Зараз перад намі паўсталі складаныя пытанні. Неабходна вывучаць гісторыю развіцця нашых інструментаў (ці іх папярэднікаў) і ў старажытнасці, і ў сярэднявеччы, і ў Вялікім княстве Літоўскім, і ў «Северо-Западном крае», бо пакуль усё гэта — «белыя плямы». Тут патрабуюцца сапраўдныя навуковыя даследаванні.

Што ж тычыцца практычнага выканальніцтва, то акрамя нашага жадання, пакуль што мы нічога не маем... Каб выхоўваць музыкантаў, трэба навучаць іх з дзяцінства, са школы, а таму рабіць прыём у класы мандаліны. Для навучання патрэбен рэпертуар, інструменты, пэўнае арыентаванне педагогаў. Неабходны майстэрні па рамонту мандалін. Беларускімі кампазітарамі напісана ўжо даволі шмат твораў для домры (ці мандаліны), але такое няпростае пытанне — іх выданне. Дарэчы, можа, не ўсе ведаюць, што ў дзяцінстве або юнацтве ў ансамблях ці аркестрах ігралі solo на мандалінах такія кампазітары, як Р.Пукст, Р.Шырма, Г.Цітовіч, М.Чуркін, Зм.Захар, Я.Глебаў, Р.Сурус і інш.

У чэрвені 1992 года мне давялося ад імя Асацыяцыі беларускіх дамрыстаў і мандалістаў звярнуцца па нацыянальным радыё да слухачоў з расказам пра нашы задумы і планы. Мы прасілі адгукнуцца, калі ў каго ёсць цікавыя факты пра мандаліну, калі хто мае старыя ноты, інструменты. Вельмі ж было прыемна пачуць літаральна праз 15 хвілін пасля перадачы званкі, прапановы слухачоў.

Такім чынам, мы ўжо набылі шэраг мандалін. Людзі разважаюць так: хай жывуць, гучаць інструменты, на якіх гралі нашы бацькі і дзяды, хай жыве музыка, якая была патрэбна людзям яшчэ ў даўнія часы.

Мы шчыра ўдзячны ўсім, хто адгукнуўся, і надалей чакаем прапаноў, званкоў, дописаў.

**Галіна АСМАЛОЎСКАЯ,**
прэзідэнт Асацыяцыі беларускіх дамрыстаў і мандалістаў, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь, прафесар Беларускай Акадэміі музыкі.

# ПАЛАЖЭННЕ

*Аб Конкурсе аднаго твора на гістарычную тэму «Зайграй, зайграй, хлопча малы...», прысвечаным паэту і кавалю-мастаку Паўлюку Багрыму, — на лепшы верш, песню, твор кавальскага, выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва*

1. У адпаведнасці з Рэспубліканскай праграмай па ўшанаванні памяці і прапагандзе творчай спадчыны Паўлюка Багрыма з мэтай больш глыбокага вывучэння жыццёвага і творчага шляху, устанаўлення гістарычнай справядлівасці да лёсу таленавітага паэта і каваля-мастака з вёскі Крашын Баранавіцкага раёна Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Беларускі фонд культуры сумесна з Міністэрствамі адукацыі і інфармацыі Рэспублікі Беларусь, творчымі саюзамі пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, музычных дзеячаў Беларусі, Беларускім фондам славянскага пісьменства і славянскіх культур, Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына» з 25 сакавіка па 1 ліпеня 1993 года праводзяць Конкурс аднаго твора на гістарычную тэму «Зайграй, зайграй, хлопча малы...», прысвечаны паэту і кавалю-мастаку Паўлюку Багрыму, — на лепшы верш, песню, твор кавальскага, выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

2. Асноўная ўмова Конкурсу — кожны ўдзельнік мае права прадстаўляць на конкурс толькі адзін твор.

3. Вершы на беларускай мове, не апублікаваныя і не перададзеныя па тэлебачанні альбо радыё, аб'ёмам не больш за тры старонкі на гістарычную тэму, надрукаваныя на машынцы праз два інтэрвалы на стандартным лісце паперы ў двух экземплярах дасылаюцца на адрас: 220034, Мінск, Вул.Фрунзе,5, Саюз пісьменнікаў Беларусі — з паметай «На конкурс аднаго твора «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» Узрост паэтаў, якія маюць права ўдзельнічаць у конкурсе, — да 30 гадоў.

4. Песні на беларускамоўныя вершы — клавір (партытура), пры мажлівасці і магнітазапіс, музыка прэм'ерная, вершы як новыя, так і надрукаваныя — на гістарычную тэму — дасылаюцца ў Рэспубліканскі аргкамітэт па ўшанаванні памяці і прапагандзе творчай спадчыны Паўлюка Багрыма па адрасу: 220010, Мінск, вул.Савецкая,9, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, п.420.

5. Творы жывапісу, кавальскага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — на гістарычную тэму — прадстаўляюцца ў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь па адрасу 220010, Мінск, вул.Савецкая,9, п.416-а.

6. Да аўтарскіх твораў дадаецца асобны ліст з поўнымі звесткамі пра аўтара: прозвішча, імя, імя па бацьку, адрас, месца работы альбо вучобы, тэлефоны. Усе дадзеныя пішуцца поўнасцю.

7. Конкурсныя работы (вершы, песні) не рэцэнзуюцца, аўтарам не вяртаюцца.

8. Аўтары лепшых конкурсных работ прымуць удзел у свяце Багрыма ў Крашыне 27 — 29 жніўня 1993 года, у час якога будуць названы імёны пераможцаў конкурсу і адбудзецца прадстаўленне твораў-лаўрэатаў удзельнікам і гасцям святкавання на радзіме паэта і каваля-мастака.

9. Для пераможцаў конкурсу ўстаноўлены наступныя прэміі:

1-я прэмія (па кожным жанры адна, усяго 6) — 25000 рублёў (кожная)

2-я прэмія (па кожным жанры адна, усяго 6) — 15000 рублёў (кожная)

3-я прэмія (па кожным жанры адна, усяго 6) — 10000 рублёў (кожная)

Заахвочвальная прэмія (па кожным жанры дзве, усяго 12) — 7000 рублёў (кожная).

10. Для падвядзення вынікаў конкурсу ствараюцца журы ў наступным складзе:

— для ацэнкі вершаў

Сяргей Законнікаў — старшыня; Алесь Пісьмянкоў — намеснік старшыні. Сябры журы: Алесь Каско, Алесь Емяльянаў, Ніна Загорская, Васіль Макарэвіч, Алесь Масарэнка, Казімір Камейша

— для ацэнкі песень

Міхась Дрынеўскі — старшыня; Анатоль Вялюгін — намеснік старшыні. Сябры журы: Галіна Вадап'янава, Тамара Даніловіч, Ніна Загорская, Мар'ян Наско, Алесь Рашчынскі, Віктар Войцік

— для ацэнкі твораў жывапісу, кавальскага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва

Уладзімір Уродніч — старшыня; Яўген Сахута — намеснік старшыні. Сябры журы: Уладзімір Басалыга, Марыя Жабінская, Юрый Любімаў, Ірына Паньшына, Міхась Раманюк.

11. Лепшыя песні, творы жывапісу, кавальскага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва набываюцца Міністэрствам культуры; лепшыя вершы будуць надрукаваны ў часопісе маладых літаратараў Беларусі «Першацвет».



Галіна ЛАШКЕВІЧ ( на здымку) — салістка харавой групы народнага ансамбля песні і танца «Бярэсце» Брэсцкага Палаца культуры прафсаюзаў. Апрача таго, яна — пастаянная вядучая канцэртаў ансамбля.

Самадзейнасцю Галіна захапілася яшчэ ў школе, у родным сяле Дзівін Кобрынскага раёна, дзе стагоддзямі жылі яе продкі-палешукі — народ песенны і вясёлы.

Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.




*Нашы красавіцкія пасядзелкі за кубачкам гарбаты мы прысвецім культуры ... дачнага жыцця. Спадзяюся, вы не дужа здзіўлены, шаноўныя спадары, — напэўна, ужо многія з вас кінулі позірк у свае вясновыя «пенаты» — хто ў вёску, да радні, хто на сваю «малую зямлю», як нехта трапна ахрысціў нашы садовыя ўчасткі. Адным словам, кола інтарэсаў мноства нашых чытачоў скіравана да зямлі, да саду і лесу. Пра іх, і не толькі пра іх, і пойдзе размова.*

*Першае слова аддаём аўтару розных цікавых парад дачнікам, якія былі надрукаваны ў 1881 годзе, у Санкт-Пецярбургу, у кнізе «Хороший тон». Ці не праўда, — назва нібы спецыяльна нам адрасаваная? І не толькі назва.*



# ЖЫЦЦЁ НА ДАЧЫ

*«Я бліжняга люблю, ды ты,*
*Прырода-Маці,*
*Для сэрца даражэй за ўсё!»*

«Якое б няшчасце, якое б цяжкое гора ні напаткала чалавека, прырода заўсёды гатовая прапанаваць яму верны сродак збаўлення.

Пуцявыя ніці яго жыцця ўяўляюцца яму заблытанымі, і ён не ў стане ўбачыць выйсце з лабірынта, але там, у прыродзе, з веку ў век усё падпарадкавана нязменнаму чыну і мудрай паслядоўнасці.

Ці скардзіцца чалавек на тое, што ён пакінуты ўсімі і дарэмна шукае сапраўднага сябра, — прырода кліча яго да сябе, прыймае яго ў свае абдымкі і цёплым веснавым дыханнем супакойвае яго беднае засмучанае сэрца. Ці прыгнятаюць яго... вузкія рамкі грамадскага жыцця і мітусня чалавечых учынкаў і інтарэсаў, мае ён прад сабою доказы бясконцай мудрасці, грудзі яго дыхаюць больш лёгка і свабодна, і сэрца ўзвышаецца пры позірку на тое, як і ў слабой істоце праяўляецца дзеянне моцнага Духа».

Гэтыя цудоўныя словы вядомага мысляра красамоўна тлумачаць прычыны, па якіх з наступленнем цёплай пары года большая частка гарадскога насельніцтва спяшаецца за горад, на дачу, на вёску і застаецца там ужо не на абмежаваную колькасць гадзін і дзён, а на цэлыя месяцы, пакуль восень не афарбуе зялёнае лісце ў чырвоныя і жоўтыя колеры, а халодны і пранізлівы вецер не напомніць пра ўтульнасць гарадской кватэры.

Сотні тысяч людзей, ці то з прычыны грашовых цяжкасцей, ці то з якой іншай прычыны, не адпраўляюцца летам у падарожжа, а лічаць за лепшае дачу.

Летняе жыццё на дачы... не ведае пэўнага этыкету, і менавіта гэта свабода, якая, вядома, прытрымліваецца харошага тону, надае яму немалую прывабнасць.

Увогуле на дачы дапускаецца большая свабода, чым у горадзе. Часам ужо розныя нязручнасці і цяжкасці ў дастаўцы харчовых прыпасаў (!) бываюць прычынай для знаёмстваў, якія часта працягваюцца і ў далейшым.

Прычын для суму на дачы не шмат, асабліва калі жывеш вялікім сямействам. Вандроўкі, поўныя весялосці паездкі даюць столькі разнастайных уражанняў, што нават спешчаная асоба будзе знаходзіць у іх пастаяннае задавальненне.

Забавай у дажджлівыя дні, у якіх у нашыя часы недахопу не бывае, можа служыць чытанне кніг і напісанне лістоў, — занятак, пра які забываюць у цёплае летняе надвор'е.

Асобам, якія жывуць невялікімі сем'ямі, самотнае жыццё сапраўды часам становіцца крыху цяжкаватым, і ў такіх выпадках запрашэнне блізкай нам асобы, сваячкі альбо сяброўкі, і просьба пагасціць у нас лепш за ўсё адпавядае нашым жаданням.

... Не лішнім будзе сказаць некалькі слоў аб запрашэннях і наведваннях дачы.

Прымаць запрашэнне з першага разу не варта, трэба пачакаць, каб яго паўтарылі, і тады мы будзем упэўнены, што нашаму прыезду будуць рады.

Увогуле ж трэба пазбягаць наведванняў знаёмага сямейства, не папярэдзіўшы аб сваім прыездзе. Якім бы прыемным ні было нечаканае з'яўленне сяброў, як бы мы яму ні радаваліся, яно ўсё ж нярэдка прыносіць маленькія непрыемнасці гаспадыні дому. Цяжкасці са здабываннем за горадам усяго неабходнага для прыёму гасцей бываюць часам настолькі вялікія, што ставяць гаспадыню ў вельмі няёмкае становішча. І ўсе запэўніванні гасцей, што ім нічога не трэба, не могуць супакоіць гаспадыню...

Асобы хваравітыя і з кволым целам разумна робяць, калі, атрымаўшы запрашэнне, не карыстаюцца ім. Варта заўсёды мець на ўвазе, што пры дачным жыцці міжволі пазбаўляешся камфорту, а на некаторыя арганізмы ўсялякая перамена абстаноўкі і тэмпературы маюць уплыў.

Мы павінны старацца, каб знаходжанне наша ў гасцінным доме пакінула ва ўсіх дамачадцаў самае лепшае ўражанне»...

... Дазволім сабе прадоўжыць гэтыя парады, бо, зразумела, аўтар старой санкт-пецярбургскай кнігі не мог прадбачыць многіх рэчаў, якія, хоць і абсалютна неабходныя нам, і натуральныя ў нашым жыцці, часта перашкаджаюць харошаму тону, парушаюць яго. Дзякуючы нам самім, вядома!..

Уяўляю сабе з'едлівую ўсмешку ўладальнікаў дач пры адным толькі вымаўленні словазлучэння «бон тон». Ці ж да «харошага тону» нам, небаракам, заклапочаным, як бы выжыць у тлуме і дзікунстве «пераходнага перыяду»! Але — чаму б і не? Хіба не пра «вяршыню выхаванасці» гавораць нам запіскі, якія пакідаюць гаспадарам няпрошаныя госці, што залазяць у нашыя дачы, —запіскі з падзякай за салёныя агурочкі з нашага склепу — «добрая была закусь пад кілішак!» І ці ж не захоўваюць правілы «харошага тону» тыя ж няпрошаныя госці, калі, каб улезці праз вакно ў памяшканне дачы, акуратна вымаюць шыбу і ставяць яе каля сценачкі? Праўда, госці гэтыя не просяць прабачэння за тое, што ўсё перавярнулі дагары нагамі, шукаючы ў нашай хатцы невядома што — золата, відаць?

Ды ўсё ж, давайце будзем узаемаветлівыя і падумаем, а што мы самі можам зрабіць, каб не ператварыць жыццё суседзяў у суцэльны вяртэп?

Перш-наперш не трэба «дыхаць ім у патыліцу», стаяць за спіной і заглядаць пад рукі, калі яны заняты градамі ці цяпліцай і не могуць удзяліць вам належнай увагі.

Асобам, якія вельмі любяць музыку і схільныя слухаць яе ўсюды і цэлымі суткамі, параім уключаць свае транзістары у сваіх чатырох сценах, а не ставіць іх на ганку ці нават паміж градаў, калі розныя там «рокі» вымушаны слухаць не толькі блізкія суседзі, але і ўвесь пасёлак.

Увогуле трэба пазбягаць парушаць цішыню, бо многія з нас уцякаюць з горада на ўлонне прыроды менавіта дзеля таго, каб «паслухаць цішыню», а не чыесьці галасістыя радыёпрыёмнікі.

Не лішне напомніць і ўладальнікам аўтамабіляў, што далёка не кожнаму падабаецца, калі пад яго вокнамі раз-пораз шастаюць чыесьці транспартныя сродкі і псуюць чыстае паветра, — чаму б не дабірацца да сваёй дачы самымі скарочанымі дарожкамі і не вельмі часта?

Недалікатна ісці да суседзяў па дачы «на тэлевізар», калі вас не запрасілі. І наогул — дайце людзям хоць на дачы пабыць сам-насам са сваёй сям'ёй, бо ў горадзе яны рэдка маюць такую магчымасць.

Рубрыку вядзе
Рэгіна **БАКУНОВІЧ.**

# ЧЫСТЫ ПОСТ

Поўнае адмаўленне ад ежы, вядомае ў старажытныя часы як чысты пост, карыснае для чалавека пры захаванні простых, але абавязковых правілаў.

За 3 — 5 дзён трэба перайсці на вегетарыянскае харчаванне з выключэннем мяса, булёнаў, малочных прадуктаў, яек, рыбы, а затым увечары (у 18 гадзін) замест вячэры адзін раз прымаецца 50-60 грамаў сернакіслай магнезіі ці солі «Барбара» на шклянку цёплай вады.

З гэтага моманту любы прыём ежы, настоеў траў, лекаў, цыгарэты, а таксама гатаванне ці кантакт з прадуктамі харчавання КАТЭГАРЫЧНА ЗАБАРОНЕНЫ! Жаданне паесці знікае, з'яўляецца агіда да курэння.

Рэжым піцця складаецца з прыёму 1,5 — 2 літраў чыстай вады ў суткі. Можна выкарыстоўваць талую, крамнёвую, мінеральную ваду.

Рэкамендуюць штодзённыя шпацыры на свежым паветры да 10-15 кіламетраў. Апранацца згодна з надвор'ем, без сінтэтыкі. Паказаны паветраныя і сонечныя ванны, у гэты час карысны загар.

Паказаны масаж, самамасаж, водныя працэдуры без мыла (ванны забароненыя), кантрастны душ, марскія купанні, паласканні рота.

Рабіць высокія клізмы з дапамогай кубка Эсмарха.

Саўна 1 — 2 разы на тыдзень.

Падчас галадання пазбягайце цяжкіх фізічных нагрузак, часцей бывайце адзін на адзін з прыродай.

Пераходзіць да харчовага рэжыму трэба, адмяніўшы ўсе працэдуры.

*1 дзень.* Пачынаць харчаванне са свежапрыгатаванага соку з морквы, яблыкаў, буракоў ці іншай сакавітай агародніны, садавіны, ягад. Першая порцыя 20 — 50 грамаў соку разводзіцца напалову гатаванай вадой і прымаецца маленькімі глыткамі. Праз 1,5 — 2 гадзіны прыём соку паўтараецца і так на працягу дня ўжываецца да аднаго літра свежапрыгатаванага соку. Можна сумяшчаць з прыёмам адвараў ці настояў шыпшыны, сухафруктаў, траваў. Усе кансервы забаронены.

*2 дзень.* Да соку дадаюцца салаты са свежай гародніны і садавіны (цёртая морква, тапінамбур, капуста, яблыкі, ягады). Крытэрыем дастатковасці ежы за адзін прыём служыць пачуццё насычэння.

*3 дзень.* Дадаецца суп з гародніны без солі, вараная гародніна, часнок (добра замяняе соль), размочаныя сухафрукты. Колькасць прыёмаў ежы да 6 — 7 раз на дзень.

*4 дзень.* Пашыраецца за кошт дадатку алею да салатаў (не болей за 1 чайную лыжку на дзень). Павінен быць самастойны стул.

*5 дзень.* Дадаткова — кашы з крупаў (варацца на вадзе), мёд, арэхі, прарослае зерне. Колькасць прыёмаў ежы скарачаецца да 4 — 5 на дзень.

*6 дзень.* Дазваляецца хлеб 50 — 100 гр. на дзень (утрымлівае соль!), бульба, таматы, бабовыя.

*З 7-га дня і ў наступныя дні* — вегетарыянская дыета без мяса, булёнаў, малочных прадуктаў, яек, рыбы, солі. Вельмі важна не пераесці і старанна перажоўваць страву!

Перыяд аднаўленчага дыетычнага харчавання роўны тэрміну галадання з пераходам на раздзельнае харчаванне (па Шэлтану).

Працэс лячэбнага галадання патрабуе ўпартай працы, самаарганізацыі, часта карэкцыі, таму пры неабходнасці ў кансультацыі Вы можаце патэлефанаваць: **38-91-08.**

**Валерый ШУМІЛАЎ,**
**кандыдат медыцынскіх навук.**


КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП,
Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ,
А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ,
В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ,
В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Віталь ТАРАС
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Віктар ДНЯПРОЎСКІ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220050, МІНСК (МЕНСК),
вул.КІРАВА, 25, кв. 12.

Тэлефон: 27-83-18

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 11127
Замова 13

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.


